ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 36 (2562)
ПЯТНІЦА 3 верасня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



**АМАЛЬ два тыдні працуе ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР выстаўка твораў членаў Акадэміі мастацтваў СССР. Выстаўка карыстаецца ў мінчан поспехам. За два тыдні яе наведала некалькі тысяч чалавек.**

**У мінулым нумары «Літаратуры і мастацтва» быў надрукаваны артыкул «Запрашэнне да свята», у якім мы расказвалі пра гэтую выстаўку, пра лепшыя работы, якія на ёй экспануюцца. Сёння мы знаёмім вас з рэпрадукцыямі некаторых з гэтых работ.**



М. ЖУКАЎ. Валодзя Ульянаў.



К. МЕРАБІШВІЛІ. Шата Руставелі.



С. ГРЫГОР'ЕЎ. Партрэт украінскага пісьменніка Андрэя Малышкі.



А. ПЛАСТАЎ. Бабіна лета.



НАДЗЁННАЕ, НЕАДКЛАДНАЕ

# ВЁСЦЫ — ВЫСОКУЮ КУЛЬТУРУ

У НАРЫСЕ «Спякотны жнівень», змешчаным у адным з апошніх нумароў «Літаратуры і мастацтва», Сяргей Грахоўскі, між іншым, расказаў, як у часе яго паездкі на Палессе, у Акцябрскі раён, многія яго тамашнія знаёмыя крыўдзіліся, што фільм «Рудабельская рэспубліка» здымаецца не на месцы падзей, не ў славутай Рудабелцы, а недзе на Гродзеншчыне. Пісьменнік растлумачыў, што сённяшняя Рудабелка з добротнымі мураванымі дамамі, лесам тэле- і радыёантэн ніяк не пасуе для гэтых кіназдымкаў па сваім «антуражы», што кіназдымачнай групе давялося аб'ехаць ледзь не ўсю рэспубліку, каб знайсці вёску, якая б нечым нагадвала тую, дзе адбываліся падзеі больш чым пяцідзесяцігадовай даўнасці.

Так, новае настолькі арганічна ўвайшло ў жыццё сённяшняй вёскі, што людзі часам не заўважаюць гэтых перамен, ім здаецца, што так было заўсёды.

Яшчэ пяць-восем гадоў таму ні адна станоўчая карэспандэнцыя з вёскі не абыходзілася без таго, каб не пералічыць, колькі тут тэлевізараў, радыёпрыёмнікаў, матацыклаў... Сёння пісаць пра гэта лічыцца проста банальным.

І ўсё ж было б памылковым лічыць, што з'яўленне ўсіх гэтых атрыбутаў цывілізацыі, навукова-тэхнічнага прагрэсу само па сабе вычэрпвае праблему культурнай перабудовы вёскі, праблему выхавання новага чалавека.

Пра важнасць фарміравання правільных духоўных запатрабаванняў людзей, якія ў поўнай меры адпавядалі б духу нашага часу, нормам камуністычнай маралі, гаварылася ў прамове кандыдата ў члены Палітбюро ЦК КПСС, першага сакратара ЦК КП Беларусі Пятра Міронавіча Машэрава на рэспубліканскай нарадзе старшынь выканкомаў мясцовых Саветаў дэпутатаў працоўных 24 жніўня 1971 года.

«У новы дом нельга цягнуць стары хлам—і ў прамым і ў пераносным сэнсе, — сказаў П. М. Машэраў. — За яго парогам трэба пакідаць не толькі непрыгодныя рэчы, але шкодныя звычкі і норавы. Як бачыце, задача павышэння культуры ўсяго насельніцтва становіцца ў шэраг галоўных сацыяльных праблем».

У нас багата вёсак, дзе ёсць і добры клуб, які славіцца не толькі прыгажосцю, дабротнасцю, а і змястоўнай «начынкай», і багатая бібліятэка з сотнямі чытацкіх фармуляраў, і выдатная мастацкая самадзейнасць.

Але, як кажуць, з песні слова не выкінеш. Многа яшчэ і такіх калектываў, якія падаюць прыкметы жыцця толькі напярэдадні свят. Тут пачынаецца сапраўдная штурмаўшчына — ліхаманкава рыхтуюцца новыя праграмы, шыюцца касцюмы. Прайшлі агляды і конкурсы—усё зноў глухне.

У сваёй прамове Пётр Міронавіч Машэраў засяродзіў увагу, у прыватнасці, на развіцці харавога майстэрства, якім славіцца беларуская зямля. «Выдатныя харавыя калектывы, якія ўзнікаюць у розных кутках рэспублікі, — сказаў ён,— не маючы падтрымкі, не адчуваючы пастаянных клопатаў, часта сыходзяць са сцэны... Мастацкай народнай творчасцю, у прыватнасці развіццём харавога мастацтва, па-сапраўднаму не займаюцца ні мясцовыя Саветы, ні, што асабліва сумна, органы культуры».

«Літаратура і мастацтва» ў свой час пісала пра некалі вядомыя мастацкія самадзейныя калектывы, якія сёння, па сутнасці, распаліся. Сярод іх Княжыцкі хор з Магілёўскага раёна, вакальна-харэаграфічны калектыў з вёскі Харошкі таго ж раёна. Дзіражыцкі хор з Лосеўшчыны і іншыя.

Асноўная прычына занападу — адсутнасць добрага мастацкага кіраўніка. Наогул, праблема прафесійных мастацкіх кадраў у вёсцы застаецца вельмі вострай. Не хапае добрых клубных работнікаў, музыкантаў, харэографаў, хормайстраў. Не сказаць, што ў рэспубліцы не рыхтуюцца гэтыя спецыялісты. Але большасць з іх чамусьці не даязджае да раёнаў. Вось адзін з апошніх прыкладаў. У Мінскім харэаграфічным вучылішчы чатыры гады назад было створана аддзяленне народнага танца. Па задуме яно павінна рыхтаваць харэографаў для мастацкай самадзейнасці. Сёлета адбыўся першы выпуск гэтага аддзялення. З дваццаці выпускнікоў толькі адзін трапіў у раённы дом культуры. Астатнія пайшлі танцорамі ў прафесійныя ансамблі, інструктарамі ў Рэспубліканскі і абласныя дамы народнай творчасці, некалькі чалавек «падабраў» ансамбль Балтыйскага флоту, мюзік-хол, ансамбль у горадзе Тальяці.

У прамове П. М. Машэрава падкрэсліваецца важнасць шэфства работнікаў мастацтва над мастацкай самадзейнасцю. Можна прывесці нямала прыкладаў, калі рэгулярная, падкрэсліваем, рэгулярная дапамога прызнаных дзеячоў культуры ўносіла свежы струмень у работу самадзейных мастацкіх калектываў.

Свой творчы поспех Барысаўскі народны тэатр звязвае з імем народнай артысткі БССР В. Галіны, пастаянны дарадца народнага хору калгаса імя Леніна Ляхавіцкага раёна народны артыст СССР Г. Цітовіч, балетмайстар І. Хвораст шмат дапамагае харэаграфічным калектывам Гродзеншчыны і г. д.

Гэты пералік можна працягваць доўга. Але скажам і такое — ёсць нямала прафесійных мастацкіх калектываў, шэфства, шэфская работа якіх зводзіцца да чарговага мерапрыемства, чарговай «галачкі». Па сутнасці для адчэпнага выязджае такі калектыў раз-два ў год у вёску з рэдзенькім канцэртам або са спектаклем, дзе ўсё не першага гатунку— і дэкарацыі, якія ў горадзе не асмеляцца паказаць, і касцюмы, і, галоўнае, выкананне. Маўляў, сыдзе, не горад.

А сённяшнія вяскоўцы навучыліся разбірацца ў сапраўдных каштоўнасцях, прагнуць сапраўднага мастацтва.

Прыгадваецца такі факт. Сёлета ў чэрвені ў калгасе імя Дзяржынскага Слуцкага раёна праводзілася канферэнцыя чытачоў газеты «Літаратура і мастацтва», удзельнікі якой з крыўдай расказвалі, як паставіліся да хлебаробаў некаторыя сталічныя скульптары. Калгас заказаў у Мінску (за вялікія грошы) скульптурны помнік. Мала, што з выкананнем заказу цягнулі немаведама колькі, зроблены помнік абы з рук...

Камуністычная партыя, Савецкі ўрад пастаянна клапоцяцца аб паляпшэнні дабрабыту савецкіх людзей, павышэнні іх культурнага ўзроўню. У гэтай пяцігодцы выдзелены велізарныя сродкі на будаўніцтва новых тэатраў і бібліятэк, палацаў культуры і музеяў. Зрабіць дасягненні сацыялістычнай культуры здабыткам кожнага савецкага чалавека — важны абавязак беларускіх літаратараў, кампазітараў, артыстаў, мастакоў, культасветработнікаў. Гэтага вымагаюць гістарычныя рашэнні XXIV з'езда КПСС.

# НАШ МАЛАДЫ СУЧАСНІК

## РЭСПУБЛІКАНСКІ КОНКУРС НА ЛЕПШЫ НАРЫС, АРТЫКУЛ І РЭПАРТАЖ АБ МАЛАДЫМ РАБОЧЫМ

*Маладыя рабочыя — актыўныя барацьбіты за ажыццяўленне рашэнняў XXIV з'езда КПСС. Ім прысвячаецца рэспубліканскі конкурс на лепшы нарыс, артыкул і рэпартаж, які аб'яўлены Беларускім Саветам прафсаюзаў, ЦК ЛКСМБ і Саюзам журналістаў БССР. Конкурсныя матэрыялы раскажуць аб поспехах у сацыялістычным спаборніцтве за датэрміновае выкананне заданняў пяцігодкі, аб руху за камуністычныя адносіны да працы, аб вопыце і пачынаннях маладых наватараў, рацыяналізатараў і вынаходнікаў, аб ролі камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый у выхаванні маладых рабочых, прыцягненні іх да грамадска-палітычнага жыцця.*

*Конкурс праводзіцца сярод шматтыражных, раённых, гарадскіх аб'яднаных, абласных і рэспубліканскіх газет. Да ўдзелу ў ім запрашаюцца пісьменнікі, журналісты, камсамольскія і прафсаюзныя актывісты, працаўнікі прадпрыемстваў, будоўляў, транспарту, саўгасаў і калгасаў.*

*Для заахвочвання рэдакцыйных калектываў устаноўлены: тры першыя прэміі па 300 рублёў, пяць другіх — па 200 рублёў і дзесяць трэціх — па 150 рублёў кожная.*

*За лепшы нарыс аўтарам устаноўлены: адна першая прэмія — 100 рублёў, дзве другія — па 75 рублёў, тры трэція — па 50 рублёў і пяць заахвочвальных — па 25 рублёў кожная. За лепшы артыкул, рэпартаж: адна першая прэмія 75 рублёў, дзве другія — па 50 рублёў, тры трэція — па 30 рублёў і пяць заахвочвальных — па 20 рублёў.*

*Конкурс праводзіцца з 1 верасня 1971 года.*

*Работу па арганізацыі конкурсу, адбору матэрыялаў на атрыманне прэмій праводзяць абласныя камісіі. Кожная вобласць мае права выставіць на заахвочванне і прэміраванне абласную, гарадскую або аб'яднаную газету, тры раённыя газеты і неабмежаваную колькасць аўтарскіх матэрыялаў. Даведкі-характарыстыкі на газеты і аўтараў абласныя камісіі падаюць рэспубліканскаму журы конкурсу не пазней як 15 чэрвеня 1972 года па адрасе: г. Мінск, вул. К. Маркса, 40, ЦК ЛКСМБ, аддзел прапаганды і культурна-масавай работы з паметкай «На конкурс». Рэдакцыі рэспубліканскіх газет пасылаюць лепшыя конкурсныя матэрыялы непасрэдна ў рэспубліканскае журы.*

# ТРЫЦЦАЦЬ ТАМОЎ ДАСТАЕЎСКАГА

У ЛЕНІНГРАДЗЕ рыхтуецца да выдання найбольш поўны з усіх вядомых да гэтага часу Збор твораў вялікага пісьменніка. Ён будзе складацца з трыццаці тамоў. Навуковая падрыхтоўка яго ажыццяўляецца Пушкінскім домам — Інстытутам рускай літаратуры Акадэміі навук СССР.

Якім будзе гэта выданне?

На пытанні карэспандэнта АДН адказвае дырэктар Пушкінскага дома, член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР Васіль Базанаў, галоўны рэдактар гэтага акадэмічнага Збору твораў Фёдара Дастаеўскага.

— Пяць гадоў назад у нашым інстытуце была створана вялікая група, якая вядзе даследчую і тэксталагічную работу па падрыхтоўцы выдання, — расказвае ён. — Вынік гэтай работы ў наяўнасці: мы ўжо здалі ў Ленінградскае аддзяленне выдавецтва «Навука» першыя дзесяць з трыццаці тамоў Збору.

— Чым вызначаецца новае выданне ад папярэдніх?

— Перш за ўсё, яно самае поўнае. Як вядома, усе выданні, якія выйшлі раней, часта грунтуюцца на друкаваных крыніцах (прыжыццёвых публікацыях) без звароту да рукапісаў. І хоць у гэтыя выданні ўвайшлі ўсе геніяльныя раманы пісьменніка, яны не могуць, на жаль, прадставіць чытачу ва ўсёй разнастайнасці і паўнаце творчую спадчыну пісьменніка.

У адносінах нашчадкаў да вялікага пісьменніка непазбежна наступае час, калі, як гаварыў Пушкін, нам становіцца цікавы кожны кавалачак спісанай ім паперы, няхай гэта будзе запіс штодзённых выдаткаў або пісьмо аб адтэрміноўцы плацяжу. Тым больш цікавыя нам аўтографы Дастаеўскага, розныя варыянты чарнавых накідаў да вядомых раманаў. Новае выданне заснавана на папярэдніх архіўных пошуках, тэксталагічных даследаваннях рукапісных крыніц. Чытач упершыню будзе мець магчымасць пазнаёміцца з чарнавымі аўтографамі Дастаеўскага, рознымі варыянтамі і рэдакцыямі яго раманаў, у прыватнасці такіх шэдэўраў, як «Злачынства і пакаранне», «Браты Карамазавы», «Падлетак».

Першыя семнаццаць тамоў (кожны аб'ёмам у трыццаць друкаваных аркушаў) будуць цалкам складацца з мастацкай прозы. Шэсць тамоў аддадзены пісьмам. Лісты пісьменніка — самы правільны шлях да пазнання яго асобы; апрача таго, яны па сваім псіхалагічным напаўненні, па стылі — прамы шлях да яго раманаў. У новым выданні мы стараемся прасачыць гэты шлях. Чатыры тамы знаёмяць чытача з «Дзённікам пісьменніка». Два тамы складаюцца з артыкулаў, нататак і фельетонаў. Адзін том цалкам прысвечаны неажыццёўленым задумам пісьменніка, яго планам, накідам задуманых тэм.

Яшчэ адна асаблівасць нашага выдання: яно ўяўляе сабой першы вопыт навукова каменціраваных публікацый твораў Дастаеўскага. У каментарыях да раманаў будзе прасочаны іх сапраўды магутны ўплыў на сусветную літаратуру. Упершыню сабраны поўныя дадзеныя аб перакладах твораў Дастаеўскага на замежныя мовы, а таксама аб інсцэніроўках яго раманаў для тэатра і кіно, ажыццёўленых у многіх краінах свету.

...У гэтыя дні ў Ленінград, у Пушкінскі дом, прыходзіць вельмі многа пісьмаў, у якіх нецярплівыя прыхільнікі таленту Фёдара Дастаеўскага цікавяцца, калі можна будзе падпісацца на поўны Збор твораў пісьменніка, калі ён пачне выходзіць.

Ужо ў працэсе падрыхтоўкі новае выданне карыстаецца вялікай папулярнасцю ва ўсім свеце. Пушкінскі дом атрымаў пісьмо з ЗША, у якім рад амерыканскіх універсітэтаў звяртаецца з прапановай выпускаць Збор твораў Фёдара Дастаеўскага ў Амерыцы на англійскай мове адначасова з ленінградскім выданнем. Падобныя прапановы паступілі з Японіі і ФРГ. Прыходзяць пісьмы з Францыі, Югаславіі, Англіі, Польшчы, Венгрыі, ГДР, Чэхаславакіі.

АДН.

# ЭКСПАЗІЦЫЯ БАГАЦЕЕ

За апошні час значна папоўніліся фонды Крычаўскага краязнаўчага музея. Заслужаная настаўніца школы БССР К. Нікалаева перадала музею шэраг дакументаў першых гадоў Савецкай улады і часоў Вялікай Айчыннай вайны. Сярод іх — арыгінал распараджэння загадчыку Чэрыкаўскага павета аддзела народнай адукацыі А. Нікалаеву аб арганізацыі прыёму галадаючых дзяцей Паволжа, якія прыбылі на Магілёўшчыну ў цяжкім 1921 годзе. Другі дакумент—распараджэнне аб арганізацыі адпраўкі 136 дзяцей Паволжа ў родныя ім Вяцкую і Казанскую губерні. Некалькі дакументаў адносяцца да гісторыі ўстаноў народнай асветы ў Крычаве і раёне ў 20-х гадах.

І яшчэ адна навіна. У жніўні ў музеі адкрылася новая зала, дзе экспануюцца вырабы народных умельцаў. Сярод іх работы токара па дрэву А. Шамро—мадэлі розных прылад сялянскай працы да рэвалюцыі; ільномялкі, ступа з таўкачом, ножная ступа і іншыя рэчы. Зараз майстар працуе над макетамі ветранога і вадзянога млыноў сялянскага двара і ваколіцы беларускай вёскі.

М. МЕЛЬНІКАЎ,
дырэктар Крычаўскага краязнаўчага музея.

# ВІНШУЕМ!

*За актыўную работу па развіцці самадзейнай народнай творчасці і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння дырэктар Рэспубліканскага дома мастацкай самадзейнасці Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў Білібін Аляксандр Іванавіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

●

*За шматгадовую актыўную работу ў друку загадчыку аддзела рэспубліканскай «Сельскай газеты» Эйдзіну Леаніду Беніямінавічу прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР.*

# З ДАРАВАЛЬНЫМ НАДПІСАМ ЯКУБА КОЛАСА...

*ФОНД Кобрынскага музея імя Суворава нядаўна папоўніўся цікавым экспанатам. Гэта кішэннага фармату кніжка, выдадзеная ў далёкім Ташкенце пяцітысячным тыражом у 1943 годзе. На тытульным лісце чытаем: «Якуб Колас. «Голас зямлі». Вершы. Аўтарызаваны пераклад з беларускага пад рэдакцыяй Сяргея Гарадзецкага. На кнізе даравальны надпіс: «Дарагому Фёдару Іванавічу Федасюку на добрую памяць. Якуб Колас. 20.1.1943 г.» На вокладцы яшчэ адзін надпіс: «Кобрынскаму в.-гістарычнаму музею імя Суворава. Ф. Федасюк. 29.07.71 г.»*

*Жыццёвыя шляхі Якуба Коласа і ўраджэнца вёскі Легаты Кобрынскага павета Ф. Федасюка, які быў у 1920 годзе начальнікам Кобрынскай ЧК, сышліся ў Ташкенце, куды абодва былі эвакуіраваны ў гады вайны. У тыя гады Федасюк працаваў дырэктарам школы, у якой вучыўся сын Я. Коласа.*

*Вершы прысвечаны пераважна ваеннай тэматыцы. Яны прасякнуты духам высокага савецкага патрыятызму. Каштоўны дар хутка будзе змешчаны ў экспазіцыі нашага музея.*

А. МАРТЫНЮК,
дырэктар Кобрынскага музея імя А. В. Суворава.

# НЕПАЎТОРНАСЦЬ

Якаў ГЕРЦОВІЧ



Фота А. КАЛЯДЫ.

**5 верасня спаўняецца семдзесят гадоў вядомаму беларускаму пісьменніку Віталю Фрыдрыхавічу Вольскаму. Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:**

**«Дарагі Віталь Фрыдрыхавіч!**

**Шчыра, ад усяго сэрца віншуем Вас са слаўным юбілеем — сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння.**

**Вы прайшлі вялікі жыццёвы шлях, юнаком прынялі ўдзел у грамадзянскай вайне, удзельнічалі ў вызваленні Беларусі ад белапалякаў, служылі ў пагранвойсках.**

**Пасля арміі Вы прыехалі ў Мінск, каб вучыцца і працаваць. Тут праявіліся Вашы арганізатарскія здольнасці. Нямала клопатаў Вы аддалі справе кінафікацыі нашай рэспублікі, узначальвалі буйныя ўстановы культуры і мастацтва: Беларускі драматычны тэатр імя Я. Коласа, Інстытут літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР.**

**У часе Вялікай Айчыннай вайны Вы плённа працавалі ў рэдакцыі сатырычнай газеты-плаката ЦК КПБ «Раздавім фашысцкую гадзіну» і ў часопісе «Беларусь».**

**Вашы першыя творы з'явіліся ў друку ў 1926 годзе. З году ў год мужнеў і мацнеў Ваш талент. Асабліва паспяховым было Ваша выступленне ў жанры драматургіі. П'есы «Цудоўная дудка», «Несцерка», «Машэка» і іншыя адразу атрымалі добрую дарогу на сцэнічныя пляцоўкі тэатраў у рэспубліцы і за яе межамі.**

**У апошнія дзесяцігоддзі чытачы ведаюць Вас як цікавага апавядальніка пра родны край, пра падарожжы. Вамі напісаны цэлы цыкл кніг: «Па лясных сцежках», «У лясах над Бярозай», «На бабровых азёрах», «Чайкі над Нараччу», «Родны край», «Афрыканскае падарожжа», «Падарожжа па краіне беларусаў» і іншыя. Яны карыстаюцца шырокай папулярнасцю як у юных, так і ў дарослых чытачоў.**

**Вамі створаны не толькі мастацкія кнігі, але і кнігі навуковыя, якія расказваюць аб гісторыі развіцця роднай беларускай літаратуры.**

**Жадаем Вам, дарагі Віталь Фрыдрыхавіч, новых творчых пошукаў, цікавых падарожжаў, моцнага здароўя, добрага настрою, найлепшага шчасця!»**

**Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання.**

ВОНКАВЫ СПАКОЙ і нейкая асаблівая ўнутраная далікатнасць у абыходжанні з людзьмі зусім не гавораць аб нейтральнасці Віталя Вольскага, яго абыякавасці. Ён, калі трэба, бывае непахісны і цвёрды, але толькі тады, калі інакш нельга, бо закрануты сур'ёзныя агульныя інтарэсы. Нездарма яго рукою напісана адна з вельмі палемічных у нашым літаратуразнаўстве кніг — «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізму». А краязнаўчыя нарысы Віталя Вольскага? Цяжка сказаць, чаго ў іх болей — замілаванай лірыкі ці гнеўнай публіцыстыкі. Дыяпазон у пісьменніка вельмі шырокі.

Па шаблоне можна было б напісаць: такім зрабіла Віталя Вольскага пройдзеная ім жыццёвая школа. Але любая школа дае добры плён толькі таму, хто хоча вучыцца і ставіць перад сабой акрэсленыя мэты, нічога не шкадуючы для іх дасягнення. У дадзеным выпадку шчасліва супала адно з другім: школай была рэвалюцыя, вучнем — малады петраградзец, які хацеў стаць актыўным змагаром за новае жыццё. А яно вабіла да сябе шаснаццацігадовага юнака магутнымі дэманстрацыямі рабочых на вуліцах Піцера, велічнымі раскатамі «Інтэрнацыянала», штурмам паліцэйскіх участкаў. Бацькі рэдка бачылі свайго сына ў тыя векапомныя дні 1917 года, калі ў піцерскім паветры адчувалася набліжэнне кастрычніцкай навальніцы. А потым — работа на Трубачным заводзе, у Камісарыяце камунальнай гаспадаркі, непаўторны дзень, калі ў якасці атэстата сталасці рэвалюцыя ўручыла юнаку вінтоўку і паслала яго бараніць родны Піцер ад белай арміі Юдзеніча.

На многіх франтах пабываў чырвонаармеец-добраахвотнік. Апошні з іх, Заходні, меў для маладога чалавека асаблівае значэнне. У баях за вызваленне Беларусі ад белапалякаў ён блізка пазнаў тутэйшых людзей, іх народныя традыцыі, песні, палюбіў гэты край, прырос да яго душою. Беларусь назаўжды прапісала салдата-камуніста, стала для яго па ўзаемнай згодзе другой радзімай.

Пасля грамадзянскай вайны і некалькіх гадоў службы ў пагранічных войсках салдат рэвалюцыі выбраў новы фронт. Патрэбны былі кадры для рэвалюцыі культурнай, і Віталь Вольскі зноў лічыць сябе мабілізаваным. Армія дала яму той папярэдні запас ведаў, з якім можна было, не спыняючы далейшай вучобы, стаць актывістам культурнага будаўніцтва. Пазней пісьменнік пісаў пра гэта: «З юнацкіх год я цікавіўся фальклорам. Калі быў чырвонаармейцам, насіў з сабою ў рэчавым мяшку сшыткі, куды запісваў народныя песні, паданні, казкі, прымаўкі, характэрныя асаблівасці народнай гаворкі тых мясцовасцей, дзе даводзілася бываць у паходных умовах, а таксама розныя краязнаўчыя матэрыялы. Тое самае рабіў і ў пагранічных вёсках і на хутарах...» То было не хобі, а жыццёвае прызванне. Інспектар Галоўрэперткома БССР, старшы інструктар кінафікацыі Белдзяржкіно, дырэктар Віцебскага мастацкага тэхнікума, дырэктар Беларускага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, дырэктар Інстытута літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР, тры гады ён займаецца фалькларыстыкай пад кіраўніцтвам акадэміка М. Нікольскага, ходзіць на прыватныя ўрокі турэцкай мовы, расшыфроўвае рукапісныя кнігі беларускіх татар, друкуе тэатральныя рэцэнзіі, чытае лекцыі на рэжысёрскіх курсах, вучыцца ў Камуністычным універсітэце імя Леніна, удзельнічае ў стварэнні Саюза пісьменнікаў БССР. Над усімі гэтымі інтарэсамі нязменна дамінуе захапленне беларускім фальклорам.

Так Віталь Вольскі стаў драматургам. Была напісана п'еса «Цудоўная дудка», амаль адначасова пастаўленая ў Мінску і Маскве ў 1939 годзе.

Няма, бадай, такога народа, які не стварыў бы свайго камедыйнага эпасу. Самыя дасціпныя ацэнкі жыццёвых з'яў, самыя вясёлыя жарты, выхадкі, знаходлівыя разгадкі таямніц народ прыпісвае сваім любімым фальклорным героям. Дурасліві рускі Іванушка, узбекскі Хаджа Насрэдзін, малдаўскі Пэкалэ, беларускі Несцерка пры ўсім іх падабенстве ў падыходзе да праблем жыцця і смерці, дабра і зла, нязменна захоўваюць і сваю нацыянальную самабытнасць. Такое спалучэнне інтэрнацыянальнага і нацыянальнага робіць гэтых герояў блізкімі ўсім народам. На долю фальклорных п'ес Віталя Вольскага выпаў вялікі поспех не толькі ў нашай рэспубліцы менавіта таму, што ў іх таленавіта, умела, з добрым пачуццём меры ўзноўлена сама атмасфера народнага мыслення.

П'есы «Цудоўная дудка», «Дзед і жораў», «Несцерка» шырока вядомы. Агульнавядома і прычына іх сцэнічнага даўгалецця: народны дасціп, увасоблены ў дасканалых формах прафесійнага мастацтва. Сялянскі сын Янка, пастух, весялун, аптыміст, абаронца бедных людзей дзейнічае ў рэальнай абстаноўцы народнай нястачы, ненавідзіць паноў і падпанкаў, падзяляе ілюзію, што варта дабрацца да караля і расказаць яму ўсю праўду — і крыўдзіцелі будуць утаймаваны. Гэта той узровень свядомасці, пры якім ёсць жаданне знішчыць зло на зямлі і яшчэ няма разумення, што зрабіць гэта можна толькі сілаю зброі. У такім асяроддзі звычайна і нараджаюцца крылатыя мары аб казачных, звышнатуральных сродках для дасягнення высакароднай мэты. На гэты раз фантазія бедных людзей стварае цудоўную дудку, пад якую мужык прымушае танцаваць караля з яго міністрамі, пана з войтам, гайдукамі. Фальклорная традыцыя ў п'есе «Цудоўная дудка» ўвасоблена ў шматлікіх песнях, у сцэнах, дзе дасціпны розум селяніна бярэ верх над гіпербалізаванай дурасцю пануючых нікчэмнасцей, а прафесійнае майстэрства драматурга, яго творчая фантазія знаходзяць для гэтых розных камічных сітуацый дынамічны і зграбны сюжэт, які дае герою магчымасць дзейнічаць, перамагаць перашкоды, набываць новы вопыт.

Такую ж ролю цудадзейнага сродку для заваявання незалежнасці ад панскага ўціску ў адпаведнасці з паэтыкай народнай творчасці адводзіць пісьменнік у п'есе «Дзед і жораў» невычэрпнай торбачцы, якая па загадзе беднага чалавека корміць усю вёску. Жораў дорыць казачную торбачку самаму добраму чалавеку, які ахвотна падзеліцца харчамі і пітвом з кожным, хто таксама галадае. У геніяльнай пушкінскай казцы пра залатую рыбку народная мудрасць бязлітасна асуджае дурную і сквапную бабу за тое, што яна хацела ўзвысіцца над усімі людзьмі і пагарджаць імі. Віталь Вольскі выбраў яшчэ адзін аспект: добрая сіла жорава і яго торбачкі — узнагарода сумленным людзям за працавітасць, шчырасць, узаемаразуменне, а для пана, войта, крывадушнага папа ёсць ражок, з якога па загадзе дзеда ў любы час гатовы выскачыць двое малайцоў і адлупцаваць любога ворага. Мараль у гэтай казцы народная. Дзед кажа: «Не толькі мы — уся вёска не будзе галадаць». Баба загадвае: «Дзед, пачастуй дзяцей». І заключны акорд: «Суседзі, дарагія, калі ласка!»

П'еса «Несцерка» — творчы сінтэз шматлікіх пластоў фальклору, дзе зброяй у барацьбе за справядлівасць з'яўляюцца не старонпія сілы, а сам розум чалавека. З гэтай народнай крыніцы пісьменнік узяў самае лепшае, здолеўшы праявіць і сваю творчую індывідуальнасць. Надзвычай трапна напісаў пра гэта А. Фадзееў у пісьме да аўтара, апублікаваным у часопісе «Дружба народов» № 1 за 1957 год: «...камедыя Ваша... вельмі народная ў сваёй аснове. У той жа час яна і стылізавана трошачкі; у ёй ёсць ужо і некаторая ўсмешка ў адносінах да народнага прымітыву... Хачу сказаць гэтым, што пры ўсёй народнай прастаце сюжэта ў вобразе Несцеркі ёсць яшчэ нейкая добрая, трошкі хітраватая ўсмешка ў адносінах ужо і да самой прастаты: «Глядзіце, маўляў, як усё проста, але ж мы з аўтарам ведаем, што гэта не так ужо і проста».

Аб генезісе «Несцеркі» няцяжка здагадацца і па тым, што пісаў значна пазней Віталь Вольскі ў кнізе «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізму», дзе ёсць спецыяльны раздзел «Вусная паэтычная творчасць і народны тэатр». З канца XVI стагоддзя на Беларусі і на Украіне атрымала шырокае развіццё так званая «школьная драма», якую дапаўнялі дасціпныя інтэрмедыі з прадстаўнікамі народных нізоў у якасці дзеючых асоб. Беларускаму селяніну, казаку, рамесніку «супрацьстаўляліся прадстаўнікі паразітычных, эксплуатарскіх, варожых народу класаў: пан, купец, псеўдавучоны схаласт... Для многіх інтэрмедый XVII—XVIII стагоддзяў характэрна сутычка беларускага селяніна з вучнем езуіцкай калегіі, шкаляром ці студыёзусам... Па ходзе інтэрмедыі селянін, звычайна па-свойму карыстаючыся сугучнасцю слоў, дасціпна растлумачвае незразумелыя для яго польскія і лацінскія выразы, якімі ганарыцца шкаляр, кпіць з «вучонага» і пакідае яго ў дурнях». З інтэрмедый нарадзілася «батлейка» — народны тэатр лялек. У «Несцерцы» таксама ёсць і дыспуты чалавека з народных нізоў з фанабэрыстым «шкаляром», і пацехі з панскай дурасці, і ашуканы суддзя-хабарнік, і феерычная інтэрмедыя з самадзейным чортам, мядзведзем, скамарохамі. Пад рукамі таленавітага майстра ўся гэтая мазаіка набыла завершаную форму дасканалага сцэнічнага твора.

Драматычная легенда «Машэка» напісана ў іншым ключы. На гэты раз цэнтральным героем стаў чалавек-змагар, які ўзвышаецца да ўзброенай барацьбы за народную вольнасць. Трагічнасць яго лёсу не толькі ў здрадзе каханай жанчыны, якая выдала паўстанца ворагам. Неажыццёўнай была сама вера ў магчымасць стварыць абшчыны вольных людзей у акружэнні феадальных уладанняў зямельных магнатаў. Не маглі на той час прынесці жаданай перамогі і такія паўстанні, хоць кожнае з іх было неабходным этапам у развіцці народнай самасвядомасці. Легенда легендай, а Машэка, безумоўна, меў нямала прататыпаў у рэальнай гісторыі народа.

Аблюбаваўшы нацыянальна-патрыятычную тэму, Віталь Вольскі з кожным новым творам усё глыбей раскрывае перад чытачамі духоўную спадчыну народа.

Слова — золата. Таму Віталь Вольскі ашчадна ставіцца да кожнага слова і ў творчай практыцы, і ў сваім асабістым жыцці, і ў дачыненні да іншых людзей. Маўклівая засяроджанасць пісьменніка тлумачыцца, мабыць, і яго шматлікімі вадроўкамі, калі чалавек цэлымі днямі застаецца сам-насам з прыродай. Як ні скупа гаворыць аб сабе Віталь Вольскі, краязнаў-

# ...І ПЛАЧУЦЬ ЛЯЛЬКІ Ў ГОМЕЛІ

Вырашыўшы пазнаёміць нашых чытачоў з жыццём і творчасцю Гомельскага абласнога тэатра лялек, мы сутыкнуліся з нечаканай перашкодай: ніхто не мог нам адказаць, дзе яго шукаць. У абласным упраўленні культуры, куды мы шмат разоў званілі, адказвалі адно і тое ж — тэатр на гастролях, але ў якім менавіта раёне, невядома. Страціўшы надзею атрымаць патрэбны адрас, я накіравалася ў Гомель, каб там даведацца (хоць бы праз знаёмых ці сваякоў артыстаў), дзе гастралюе «няўлоўны» тэатр . Высветлілася, што калектыў цяпер у Глуску, хоць ва ўпраўленні культуры сцвярджалі, што ён у Кастрычніцкім раёне. Амаль дзень дабіралася да Глуска аўтобусамі і падарожнымі машынамі і позна ўвечары пад'ехала да гасцініцы, куды якраз вярталіся акцёры з чарговага выязнога спектакля.

Даведаўшыся аб мэце майго прыезду, яны былі шчыра здзіўлены:

— Ведаеце, намі так мала цікавяцца... Нам ужо здавалася, што ніколі ніхто не спытае, чым мы жывём, над чым працуем, пра што марым.

— Ну, а гледачы?

— Дзеці, здаецца, любяць нашага героя медзведзяня Рымцімці. Ва ўсякім разе, у тэатр прыходзіць многа пісьмаў, дзе яны расказваюць пра розныя цікавыя здарэнні са свайго жыцця. Прысылаюць малюнкі са сцэнкамі з нашага спектакля. Але ж хацелася б, каб наш Рымцімці хоць раз сустрэўся з калегамі з Мінскага і Брэсцкага лялечных тэатраў... Шкада, што вы ўбачыце наш спектакль у гастрольных умовах. Мы паўтара месяца на калёсах, дэкарацыі папсаваліся, ды і мы сталіся...



У час спектакля...

На наступны дзень я мела магчымасць два разы паглядзець спектакль — у вёсках Гарохаўка і Пятровічы. (У Пятровічах якраз толькі што адкрылі новы клуб, і дзеці, што збегліся ляснымі сцяжынкамі з усіх суседніх вёсак, былі ў захапленні, убачыўшы не ў кіно і не па тэлевізары жывых артыстаў і, асабліва, «жывых» лялек). Дарогі да такіх, параўнаўча аддаленых ад цэнтраў куткоў—не гладкія, таму не дзіўна, што рэквізіт папсаваўся. Дэкарацыі, калісьці яркія і святочныя, паблеклі і многа прайграюць ад таго, што ўстанаўліваюцца на белым фоне (заднік з блакітным небам і залатым сонцам парваўся). Ды і акцёрам не лёгка іграць адзін і той жа спектакль па два-тры разы кожны дзень. Натхнення і ўздыму прэм'еры тут чакаць дарэмна...

І ўсё ж мне было зразумела, чаму так падабаецца дзецям медзведзяня Рымцімці з казкі польскага пісьменніка Яна Вількоўскага. То непаслухмяны, то гультаяваты Рымцімці ў той жа час на дзіва шчыры і добры і заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу сябрам. Артыстка Тамара Гарачава добра перадае інтанацыі ломкага хлапечага голасу, іграе тэмпераментна і цёпла. З задавальненнем сустракаеш і выхады таты Рымцімці, які хоча здавацца вельмі строгім выхавацелем, а на справе, як і ўсе таты ў наш час, не можа пярэчыць капрызам любага сына (гэты адыход ад прасталінейнай дыдактыкі, дарэчы, вельмі прыемная рыса ў спектаклі для малышоў). Цяжка паверыць, што гаворыць не сама лялька, настолькі натуральным для яе здаецца голас артыста Уладзіміра Матроса — гучны, нізкі, багаты на інтанацыі. І самі гэтыя лялькі, зробленыя мастаком тэатра А. Чабатаровым і бутафорам Ф. Бліновым, выразныя, пацешныя, пераканаўчыя.

Пасля вяртання ў гасцініцу артысты, нягледзячы на стому і позні час, захацелі тут жа даведацца пра мае ўражанні ад спектакля.

— Вам не здаецца, што мая Ліса гаворыць занадта нізкім голасам? — пытае Людміла Гамзюк.— Не магу пераканаць рэжысёра, а сама б я гаварыла інакш.

— Як асвятленне? Ці добра гучыць музыка? — непакоіцца мастак па асвятленні Аляксандр Чупрыс.

— А Заяц не здаўся вам невыразным — і як лялька, і як персанаж? — гаворыць Кацярына Кліманок. — Мне неяк сумна яго іграць.

Словам, усе з нецярплівасцю чакаюць думкі свежага чалавека. Я адказваю, што немагчыма выказаць нейкае агульнае абгрунтаванае ўражанне аб тэатры па адным спектаклі, ды яшчэ прагледжаным у такіх умовах.

— А два спектаклі мы не маем магчымасці вывозіць — аўтобус маленькі, не змяшчаецца рэквізіт. Ды і ў Гомелі вы два не пабачылі б. Мы выпускаем адзін спектакль у паўгода, паказваем яго спачатку ў горадзе, па школах (стацыянара ж у нас няма), а потым на гастролях. Прыязджайце на нашу наступную прэм'еру — «Алёнка і салдат».

— Але ж у Гомелі можна аднавіць і старыя спектаклі?

— Не так гэта лёгка. Няма дзе захоўваць лялькі і дэкарацыі. Загінула ўжо некалькі спектакляў. Згнілі ў склепе, дзе зараз знаходзяцца нашы майстэрні. Разумееце, як крыўдна — бярэш у рукі дэкарацыю, і кавалак застаецца ў цябе ў руцэ... Дзе ж адновіш такі спектакль?

— Няўжо для майстэрні не знайшлося лепшага памяшкання?

— Шчыра кажучы, мы і гэтаму рады...

Я іх разумею. Раней мастак і бутафор працавалі ў сябе на кватэры, і гаспадыня, у якой яны здымалі пакой, хацела іх выгнаць. Маўляў, яна здавала кватэру, а не памяшканне для майстэрні. Цяпер хоць параўнаўча ў тэрмін афармляюцца спектаклі, а да гэтага артысты ўпершыню бачылі сваіх лялек у лепшым выпадку на генеральнай рэпетыцыі, а то і на прэм'еры. Але і цяперашняе памяшканне майстэрні пад пагрозай: яго могуць адабраць харчовыя арганізацыі — тут мяркуюць абсталяваць кафэ «Марожанае».

Праўда, ёсць у тэатры драмы два маленькія пакоі, дзе можна трымаць частку рэквізіту і дэкарацый. Частку матэрыялаў хаваюць у кладоўцы... туберкулёзнага дыспансера. А рэпетыцыйных пакояў наогул няма. Рэпеціруюць дзе давядзецца — у дарожным тэхнікуме, у вучылішчы механізацыі. Часам пускаюць лялечнікаў у клуб парку культуры і адпачынку імя А. В. Луначарскага. Памяшканне там нядрэннае, але работнікі парку ўвесь час заходзяць па розныя рэчы, перашкаджаюць рэпеціраваць. Да таго ж за сцяной звычайна іграе духавы аркестр і праводзіць музычныя рэпетыцыі проста немагчыма.

Калі я пажартавала, што адзіны дом — гэта аўтобус, артысты без жарту сказалі: «Ні гаража, ні майстэрняў няма. Стаіць наша «антылопа» проста на вуліцы, пад вокнамі ў шафёра».

— Ездзім мы многа, рамантаваць машыну даводзіцца часта, а рамантаваць няма дзе і няма каму, — уступіў у размову адміністратар Леў Белкін. — За гэты год ужо трэці шафёр падаў заяву аб звальненні. Няўжо нельга прыпісаць наш аўтобус да гаража якой-небудзь іншай установы? З-за прастояў аўтобуса ў нас сарваўся не адзін спектакль...

Адзіны ў вобласці прафесійны лялечны тэатр... Дзе ж яму жыць? Клуб парку культуры? Там наладжваюцца танцы, і гэта асноўная крыніца яго прыбыткаў. Палац мясцовай прамысловасці? Там размяшчаецца філармонія, у яе свае немалыя цяжкасці. Зала Палаца піянераў? Кажуць, і яна перагружана..

Разам з Віктарам Чарняевым, дырэктарам і галоўным рэжысёрам тэатра, мы агледзелі і памяшканне так званай майстэрні. Не верыш сваім вачам — няўжо ў наш час людзі могуць працаваць у такіх умовах? Двухметровыя каменныя сцены былога палаца Паскевічаў надзейна ахоўваюць склеп ад доступу свежага паветра. Ніякай вентыляцыі няма. Столь і сцены без ніводнага акенца пакрывае шэрая цвіль. І тут паўтара гады ўжо спрабуюць ствараць цуды тры чалавекі — мастак, бутафор і швачка.

Але ж калі адкрываўся ў Гомелі новы тэатр, мелася нешта на ўвазе? Не думалі ж, што ён будзе працаваць на вуліцы! Так, лялькам абяцалі клуб парку культуры. Тут размясціўся б і стацыянар, і база. Пастанову прымаў аблвыканком, а будынак належыць гарвыканкому. Абласныя і гарадскія ўлады не здолелі дамовіцца паміж сабой, і тэатр апынуўся на вуліцы. Гартаю пульхную папку з копіямі дакументаў, якія датычаць лялечнага тэатра. Чытаю першы:

Рашэнне... ад 11 красавіка 1968 года... Выканком Гомельскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных вырашыў адкрыць з 1 красавіка 1968 года ў г. Гомелі абласны тэатр лялек, размясціўшы яго ў будынку клуба Гомельскага парку культуры і адпачынку...

Дык жа будынак, кажуць, у аварыйным стане і наогул будзе зносіцца! І дагэтуль парк праводзіць у ім амаль усе свае мерапрыемствы. А каб не гэта, будынак быў бы ідэальным месцам дзейнасці тэатра: у цэнтры горада, у парку, побач з Палацам піянераў...

Далей у папцы — пісьмы, пісьмы, пісьмы...

«Даводжу да Вашага ведама, што з-за адсутнасці памяшкання спыніліся ўсе работы па падрыхтоўцы новага спектакля за выключэннем дробных работ, якія выконвае бутафор на вуліцы (у парку), калі дазваляе надвор'е. Пад пагрозай — вытворча-фінансавы план тэатра. Чарняеў».

Пісьмы ў аблвыканком, абласное ўпраўленне культуры, у Беларускае тэатральнае аб'яднанне. І кожнае канчаецца словамі: «Дапамажыце нам, калі ласка!»



Пасля спектакля...

Адказаў у той папцы я не знайшла. Так, гутарылі з лялечнікамі, абяцалі нешта...

Сярод папер, сабраных у папцы, ёсць і пісьмо прадстаўнікоў грамадскасці горада — супрацоўнікаў аблана, школ, музычнага вучылішча, журналістаў. Я сустрэлася з некаторымі яго аўтарамі.

— Артысты лялечнага тэатра — частыя і жаданыя госці на Гомельскім тэлебачанні, — сказала мне рэжысёр дзіцячай рэдакцыі Вера Яцкевіч. — Перадачы з іх удзелам выклікаюць вялікую цікавасць у нашых гледачоў, у рэдакцыю прыходзіць шмат удзячных пісьмаў. Я асабіста проста здзіўляюся, як у работнікаў тэатра хапае сіл творча працаваць у тых умовах, у якія яны пастаўлены. Працуюць на адным энтузіязме Колькі год мы імкнёмся дапамагчы ім — і ўсё дарэмна...

— Гэта адзіны тэатр для дзяцей, які ёсць у нашым горадзе,—гаворыць супрацоўніца ідэалагічнага аддзела «Гомельскай праўды» Зоя Зайцава. — Але юныя гамяльчане амаль яго не бачаць. Тэатру неабходна стварыць нармальныя ўмовы для работы.

А што адносна гэтага думаюць у абласным упраўленні культуры? На мае пытанні аб творчых магчымасцях тэатра, аб ідэйна-мастацкіх вартасцях яго спектакляў загадчык упраўлення Э. Гладковіч адказаў:

— Дакладна не ведаю, я іх спектаклі даўно глядзеў...

(Вярнуўшыся ў Мінск, я мелася пайсці ва Упраўленне па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР, спытаць супрацоўнікаў яго, што яны робяць або збіраюцца рабіць, каб палепшыць становішча гомельскіх лялечнікаў. Але адмовілася ад свайго намеру, бо магло здарыцца тое ж самае, што і ў гаворцы з начальнікам абласнога ўпраўлення культуры ў Гомелі, — яны таксама могуць адчуваць сябе няёмка і «дакладна» нічога не ведаць... Спадзяюся, што пэўныя захады ўсё ж упраўленне хоць бы збіраецца рабіць, нават калі і яго супрацоўнікі «даўно глядзелі» спектаклі лялечнага тэатра ў Гомелі. Бо трывожныя дакументы-паперы з горада над Сожам яны атрымлівалі і ў тых дакументах чыталі пра тое, што цяжка, ой, як цяжка працаваць гэтаму маленькаму і такому патрэбнаму дзецям тэатру!).

Нядаўна Гомельскі аблвыканком прыняў рашэнне прасіць рэспубліканскі Дзяржплан і Міністэрства культуры БССР уключыць у план 1973—1975 гадоў узвядзенне будынкаў філармоніі, тэатра лялек і музычнай школы. Зразумела, будаўніцтва стацыянара — справа складаная, якая патрабуе сродкаў і часу. Але зразумела і тое, што працаваць у такіх умовах да 1973 года тэатр не здолее. Няўжо нельга знайсці шэсць-сем пакояў для базы тэатра, прытым у адным будынку, каб артысты не вазілі лялькі і дэкарацыі праз увесь горад. Гэта ж такая неабходная творчая патрэба рэжысёра і мастака—мець пакой, у якім можна было б адысціся на нейкую адлегласць ад шырмы, каб паглядзець, як у цэлым выглядаюць асобныя сцэны спектакля!

Цяпер тэатру абяцаюць (зноў абяцаюць!) некалькі пакояў у будынку пракуратуры, калі ёй будзе ўзведзены новы. Але гэта яшчэ справа няпэўнай будучыні. Энтузіясты лялечнага тэатра ў Гомелі зноў доўгую восень і зіму будуць працаваць у халодным вільготным склепе.

Акрамя ўсіх арганізацыйных пытанняў, якія бясконца паўстаюць перад калектывам, артыстам, якія ў большасці сваёй прыйшлі з самадзейнасці, неабходна паўсядзённая вучоба — па майстэрстве акцёра, тэхніцы мовы, вакале. І для гэтага патрэбна хоць якое-небудзь месца. А яны ж яшчэ мараць падрыхтаваць спектакль для дарослых, што, безумоўна, многа дало б для іх творчага росту.

Мабыць, мы яшчэ не раз будзем звяртацца да праблем лялечных тэатраў. І з папрокамі ў іх адрас, бо яны не маюць арыгінальнага рэпертуару, а значыць, выразнага творчага аблічча. І з прэтэнзіямі да нашых дзіцячых пісьменнікаў, якія абыходзяць сваёй увагай гэты важны і цікавы жанр, да Беларускага тэатральнага аб'яднання, якое яшчэ нічога не зрабіла, каб наладзіць сувязі паміж трыма рэспубліканскімі лялечнымі тэатрамі, дапамагчы ім абменьвацца творчым вопытам. Вернемся і да Гомельскага тэатра...

Але ад душы спадзяюся, што пры наступнай сустрэчы з калектывам адпадзе неабходнасць гаварыць пра загінуўшыя ў вільгаці спектаклі, пра бяздомны аўтобус, пра няўвагу абласнога ўпраўлення культуры да надзённых патрэб тэатра. Што ў цэнтры размовы будуць стаяць толькі творчыя праблемы.

**С. КЛІМКОВІЧ,**
спец. карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».

# ПАЭЗІЯ НА ЛІНІІ АГНЮ

Тхань ХАЙ

(Рэспубліка Паўднёвы В'етнам)

## *Вы ўжо ўзляцелі*

Дарагія браты мае,
Упершыню
Вы ўзляцелі, адчулі нябёс вышыню!
Чарнавокія, статныя, зухаватыя,
Вы, нарэшце, к таму ж і крылатыя.
Год расказвай, і ўсё будзе мала,
Колькі ўсім нам крыві каштавала,
Колькі нерваў і працы, і поту,
Покуль мы дачакаліся ўзлёту
Вас, анёлаў не з боскага храма,
Над пакутнай зямлёю В'етнама.

Панаваў па-над ёю бязлітасны вораг.
Вы спазналі, чым пахнуць бамбёжкі і порах,
Як напалм і фугаскі знішчаюць шпіталі—
Вы спазналі, браты, усяго паспыталі.
А сягоння, нарэшце, і наша ўзяло:
Сакалёнак-в'етнамец наш стаў на крыло
І з нябёс у гісторыю робіць узлёт:
У В'етнама—паветраны флот!

Нібы ў казцы, цяпер вам адкрыцца павінна
З вышыні ўся цудоўная наша краіна:
Рэкі, горы, палі, гарады
І сады, дзе ні глянеш—сады.
Дык глядзіце ж, старайцеся, братцы,
На высокім узроўні трымацца.
Насцігайце тых янкі і біце па-руску,
Не давайце разбойнікам спуску.
Ім адмераўшы мераю поўнай,
Вы тым самым паможаце Поўдню.

Тут, пад покрывам джунгляў кашлатых,
Ваш узлёт—наша радасць і свята,
І чутны нам у тыле глыбінным
Рэактыўныя вашы турбіны.

Мы віншуем адзін аднаго
І, пусціўшы ў работу агонь,
Днём і ноччу па базах іх лазім,
Чужаземную набрыдзь дубасім.

Ах, браты, не сакрэт паміж намі:
Ім, «джыаям»*, не быць у В'етнаме.
Неразлучна, з падвоенай сілай,
Будзем біць іх і з фронту, і з тылу!

Вы ўзляцелі пад сонца,
Узляцелі.
Дык страляйце ж без промаху ў цэлі,
Дзеці Поўначы!
У сінім зеніце
Віншаванне ад Поўдня прыміце.

1968

* «Джы-ай» — пагардная клічка васеннаслужачых узброеных сіл ЗША.

Ле Ан СУАН

(Рэспубліка Паўднёвы В'етнам)

## *Мост на плячах*

Прысвячаецца дваццаці дзяўчатам з вёскі Беч Чэ, якія на сваіх плячах трымалі бамбукавы мост на рацэ Тхан Мыой, пакуль байцы аднаго з падраздзяленняў Народных Войск Сіл Вызвалення не пераправіліся праз гэту раку.

Распагодзілася ночка навальнічная.
Весялей ступайце, хлопцы, весялей.
Тут вада па дну халодная, крынічная,
Але й вам пад зорным небам не цяплей.

Я б цябе пашкадавала, драбнаступа,
Абагрэла б, каб цяжар не на плячы.
Прытаміўся: мінамёт цяжкі, як ступа.
Ты таўчы ім нашу злыбяду, таўчы.

Ах, якія ў вас скрываўленыя ступні,
Абшарпаныя калючкамі—аж страх!
Ды ступай жа ты без боязі, прытупні:
Мост надзейны—не на палях, на плячах.

Толькі муляе бамбукавае жэрдзе
Мне ключыцу, не валодаю рукой.
Дзеля вас жа мы стараліся, як чэрці.
Пераходзьце і—адразу з ходу ў бой.

...Дваццаць мужных, непахісных, як апоры.
Ператупаў зверху стомлены атрад.
Адбіваюцца ў рацэ іскрынкі-зоры
Ці не зоры—можа вочы тых дзяўчат!

Параўнаць іх вочы з зоркай—слабавата.
Гэта бляск іх непагаснае любві.
Будзе помніць сэрца ўдзячнае салдата
Тыя змуленыя плечы да крыві.

1969.

Нгуен Дзінь ТХІ

(ДРВ)

## *Балада аб разлучаных сэрцах*

Не ўсім на шчасце знойдзецца падкова.
Іх стрэча адбылася выпадкова.

Двух закаханых—аднаго з адной,
Двух сэрцаў, што разлучаны вайной.

У зелянкавых потных гімнасцёрках
Абое крочылі, нібы па зорках,

Па цернях з бою ў бой, як з горна ў горан,
Нібы ўвесь свет для іх адных быў створан.

І вось, як два вандроўнікі з пустыні,
Да ручая прыйшлі і там прыстылі.

Да вуснаў—вусны: п'юць і не нап'юцца,
А міма—іх сябры, і не смяюцца.

Здаецца ім—дзівосны сон ці казка
І гэта блізкасць, і абдымкаў ласка.

— Той варажбіт няпраўду нам прарочыў.
Мы пастарэлі, але ж бачыш— крочым.

— Маніў стары. Сустрэўшыся з табою,
Я быццам прамянюся ўся любоўю.

— Ты не прастыла!.. Лоб такі гарачы...
— Ад радасці. Ты не глядзі, што плачу.

Ах, любы мой, які ў руках ты дужы!
— Калі ж ізноў, калі, мая ты ружа?..

Забыўшыся на ход падзей і часу,
Яны ўдваіх—дазорны і падчасак—

Стаяць пад пальмай, што бялее ў змроку.
І раптам—залп гармат непадалёку.

— Ты чуеш! Гэта ўжо ў маім раёне.
Пара і мне...
Разлука на пероне.

Абое ў смутку. Моўчкі к сэрцу горне
Рука руку, бо словы дзесьці ў горле

Кіпелі, прыкіпелі і застылі...
Два шызыя дымкі на небасхіле,

Як два пярсцёнкі па канцах дарогі.
— Да новых стрэч! Да нашай перамогі!

1970.

Пераклаў Язэп СЕМЯЖОН.

ахуталі градкі са шпінатам, зарослыя водарасцямі стаўкі, наваколле. Неўзабаве ў цемры віднеліся ўжо толькі электрычныя агні ды снапы святла з некалькіх вялікіх дамоў, што былі зусім нядаўна пабудаваны.

— У гэтым раёне Ханой набывае аблічча сацыялістычнага горада,—сказаў Луонг.

— Так, — згадзілася Туйен. — Калі я тут насялілася, за нашым домам адразу пачыналася гарадская звалка. Ад смуроду аж галава кружылася. А ўлетку зусім было кепска. Цяпер там сады і новабудоўлі. Засталося, праўда, яшчэ нямала старых хацін з саламянымі стрэхамі. Але і яны сёння сталі на выгляд больш акуратнымі. А каб нам не давялося ваяваць, дык за два-тры гады замест іх выраслі б новыя жылыя кварталы.

— Мая сястра Дао тут доўга жыла?

Туйен падняла галаву. Здавалася, у яе думках прабеглі прыемныя ўспаміны.

— Яна пераехала да мяне пасля смерці вашай маці. У хуткім часе выйшла замуж за Нхона, але цэлы год яна жыла тут. Потым паехала ў Кесон, дзе ўладкавалася на метэаралагічнай станцыі. З таго дня яе не бачыла, — Туйен пільна глянула на Луонга і ўсміхнулася: — Вас яна любіла больш за ўсіх на свеце...

— Нхон заўсёды спадзяваўся сустрэцца з вамі. Дао вельмі хацела пазнаёміць вас з мужам. Шкада, што сёння пасля сходу яму тэрмінова трэба было вярнуцца у Він Лінь. Яны жывуць, як птушкі. Сястры вашай даводзіцца цяжка адной, але жонка яна верная. Ён служыць цяпер на вельмі небяспечным участку, які часта падвяргаецца налётам варожай авіяцыі. Шмат разоў іх бамбілі «В-52». — Туйен памаўчала, задуменна пазіраючы на госця. — Але, калі давяляюць месца і абставіны, яны ўспамінаюць, што жанатыя.

Дзяўчына пачырванела. Праз нейкі момант яна паднялася з крэсла і выйшла. Луонг праводзіў яе позіркам. Ён не адрываў ад яе вачэй, калі яна нахілілася над плітой, каб запаліць агонь пад камфоркай, на якой стаяў чайнік.

Вячэра канчалася. Абое пілі чай. У Туйен было многа пытанняў, і калі Луонг адказваў на іх, дзяўчына з увагаю слухала. Яна папрасіла расказаць пра іншыя краіны, пра іх прыроду, пра звычаі і парадкі. Луонг мог параўнаць іншыя краіны са сваёй радзімай, расказаць пра свае ўражанні, калі з самалёта ён акідвае позіркам зямлю.

Туйен сядзела па другі бок лямпы з папяровым абажурам і слухала. Вочы яе задуменна паблісквалі і часта загараліся новым пытаннем.

Луонг гаварыў:

— Кожная краіна па-свойму прыгожая. Кожны народ па прыродзе сваёй добры і працавіты. Жоўтыя колеры восені ў Савецкім Саюзе — відовішча незвычайнае. Не раз падымаўся я на Ленінскія горы ў верасні, у кастрычніку. Святло празрыстае-празрыстае, крыху з кропелькамі вільгаці. Паветра свежае, як у нас на свята Тэт. А ўдалечыні — лес, афарбаваны ў нейкія цудоўныя жоўта-залацістыя колеры, што свецяцца так, быццам лісце адбівае электрычнае святло. Узімку нямала дзён, калі неба блакітнае, ярка асветленае сонцам. Зімой дрэвы скідаюць лісце. Палі пасыпаны снегам. Дахі дамоў нібы пакрытыя бялюткім покрывам...

Калі я лётаю над нашай краінай, мяне заўсёды хвалюе яе хараство. Праўда, у нас няма тых даляў, што нельга нават вокам ахапіць. Але ці ёсць на свеце што-небудзь больш маляўнічае, чым наша Радзіма на самым краі мора з яе высокімі гарамі і шматлікімі воднымі шляхамі? Як марскія хвалі ў час буры, узнімаюцца ўвысь горныя ланцугі і плаўна пераходзяць ва ўзгорыстае ўзвышша, акаймаванае ўрадлівай Дэльтай з рысавымі палямі і садамі, што пераліваюцца вясёлкавымі фарбамі. Зямлю ва ўсіх напрамках пераразаюць люстраныя рэчкі, густая сетка каналаў. Так, край наш — жыватворная крыніца. Хачу, каб ён заўсёды быў такі. Хай жывём мы яшчэ небагата, але мы такія ж жыццярадасныя, як і наша Радзіма.

Луонг замаўчаў і падумаў: «Магчыма, тое, што я гавару, вельмі будняе, невыразнае, звычайнае? Ці здолеў я перадаць свае думкі, пачуцці, сваё захапленне?» Ён глянуў на Туйен і ўсміхнуўся. Магчыма, усмешка і бляск вачэй скажуць ёй больш, чым словы? Туйен таксама усміхнулася, і ў вачах яе ўспалыхнулі ўсхваляванасць, радасць і нейкая гордасць. І раптам Луонг убачыў, што Туйен вельмі прыгожая, такая прыгожая, што ў яго аж дух заняло. Твар маладой в'етнамкі быў натхнёны, асэнсаваны. На ім адбіліся не толькі ўнутраная радасць і ўзрушэнне, але і смутак, гнеў і надзея. Ён падумаў, што ў вобразе гэтай в'етнамскай дзяўчыны спалучыліся самаадданасць і ўпартасць многіх пакаленняў народа...

Шум гарадскога транспарту і гукі дынамікаў раптам патанулі ў рокаце матораў і скрогаце жалеза. Туйен кінула позірк на вуліцу, на якой замільгацелі прамені пражэктараў, ярка асвятліўшы неба.

— Зенітныя гусенічныя ўстаноўкі! — усклікнула дзяўчына.

— Вы бачыце самалёты! — Луонг паказаў рукою на зялёныя і чырвоныя агеньчыкі, якія плылі высока над горадам. Рознакаляровыя кропкі рухаліся паволі, то загараліся, то гаслі. Толькі белая пляма святла паміж імі ўвесь час ззяла ў небе.

— Чуеце? Страляюць зеніткі!

— Дзе?

— Зірніце на неба і ўбачыце.

— Нічога такога не бачу.

— Вунь гляньце — на гарызонце бліскавіцы. Хутка пачуеце гром гармат.

І сапраўды, удалечыні, за дахамі і кронамі высокіх дрэў, неба прарэзалі вогненныя каляіны. Праз некалькі секунд начны вецер данёс гукі выбухаў.

Туйен павярнулася

— Пэўна, хутка аб'явяць трывогу. Мне трэба падрыхтавацца, каб у час прыйсці на завод. — Дзяўчына зняла з вешалкі нейкую адзежыну і выйшла. Праз некалькі мінут яна вярнулася — на ёй былі старыя сінія штаны і блузка. На галаве — палатняная шапка.

Луонг не адыходзіў ад акна, углядаючыся ў ноч.

— Да гэтага часу не чутно яшчэ сірэны. І страляніна сціхла... Пэўна, былі адзіночныя самалёты, і цяпер яны паляцелі назад.

Туйен зірнула на будзільнік, што стаяў на стале.

— Хутка мая змена. Усю ноч мяне дома не будзе. Вы можаце застацца.

— Я абяцаў наведаць Таана.

— Лічыце, што Дао жыве яшчэ ў мяне... Не магу нават падумаць, што, прыехаўшы ў вольны час у сталіцу, яна будзе хадзіць па горадзе, не маючы на ўсякі выпадак даху над галавой.

Туйен адхінула покрыўку з ложка і ўзяла вінтоўку. Калі яна перакінула яе цераз плячо, Луонг, усміхаючыся, спытаў:

— Вам даводзілася ўжо страляць па амерыканскіх самалётах?

— Адзін раз, дваццаць дзевятага мінулага месяца. Але ніводнага не збіла. — Дзяўчына ўсміхнулася лётчыку і дадала: — Нам трэба яшчэ многаму ў вас павучыцца. Шмат чаго мы яшчэ не ведаем. Я адчула гэта, калі слухала сёння лётчыкаў. У нас выдатная авіяцыя.

— Думаю, — сказаў Луонг, — што на гэта трэба глядзець так: у нас, у лётчыкаў, магутная зброя; значыць, наша задача — захапіць ініцыятыву. Але хіба рабочы не ваюе? Удзень ён працуе на заводзе. Але, калі вораг хоча знішчыць яго завод, рабочы бярэ ў рукі зброю. Пасля налёту ён зноў становіцца да свайго станка. Ворага ён сустракае толькі агнём. Гэта і ёсць тое, што называецца мужнасцю. Сказаць праўду, у параўнанні з тым, што робяць нашы рабочыя, мы яшчэ мала збілі варожых самалётаў.

Тым часам Туйен выняла з тумбачкі невялічкую сумачку, паклала туды цыркуль і лінейку. Потым выйшла, узяла ручнік і мыла і сунула іх у прыгожы драўляны чамаданчык. Весела глянуўшы на Луонга, дзяўчына сказала:

— На жаль, затрымлівацца больш не магу, а то я б вас слухала і слухала. Давяраю вам сваё жытло. Мне б вельмі прыемна было, каб вы адпачылі тут. Але вам відней, што рабіць. Калі пойдзеце да Таана, калі ласка, павесьце ключ вунь там, у куце.

Туйен выйшла ў калідор. Позірк Луонга ўпаў на ўзгалоўе ложка.

— Вы не ўзялі патроны! — ускрыкнуў ён і, схапіўшы патранташ, падаў дзяўчыне.

— Нейкая я сёння задумная... — сказала Туйен, пачырванеўшы, і хуценька збегла з ганка.

Пераклаў С. ДОРСКІ.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

## ПЕРАПЁЛКА Ў СМЯТАНЕ

Іван АНОШКІН.

ВОСЬ вы не верыце Ілью Ільфу, што якісьці Левін уплёў абед галоўнакамандуючага. А калі шчыра прызнацца, дык нядаўна я і сам... Праўда, з дружбакамі, у часе турысцкай паездкі.

Ездзілі мы недалёка — па наваколлі. Бо ткнуўся ў заўком, а там чарга да палецця.

— Навошта пуцёўка? Гайда са мною! — запрасіў Ігнась. — Хоць да сіняга мора.

Ігнасю лацвей: куды захацеў, туды і паехаў, бо — свая «Волга». Можна да сіняга, можна да Чорнага. Ды Рыгор — трэці наш сябрук — адгаварыў ехаць далёка. Нідзе, кажа, няма прыгажэйшых мясцін, чым нашы. Тут табе і луг, і лес, і рэчка. Але я адхіліўся. Пачаў пра абед, а павёў вунь куды заместа сталоўкі.

Дык слухайце пра сталоўку. Якраз каля шашы трапілася — у такім невялікім мураваным доміку.

Падрульваў Ігнась пад самыя вокны тае сталоўкі. А ў ёй, як у полі перад новым годам — бела-бела. Абрусы нібы ў сталічным рэстаране, усюды кветкі. Яшчэ большае дзіва — нібыта тут нас чакалі.

— Просім, просім! Калі ласка! — спяшалася насустрач румяная, нібы здобная булка, цётка ў шаматкім халаце. — Сюды, калі ласка, пад фікусы!

Няхай сабе пад фікусы, нам абы падсілкавацца. Што ў іхнім меню?

— Можа вам халаднічок? Можа перапёлачку ў смятане?

— Перапёлачку?!

— Для праезджага чалавека гатовы хоць птушынага малака... Анюта! — гукнула жанчына другой, таксама немаладой, але рухавай цётцы. — Падай таварышам марынаваных грыбочкаў. І да грыбочкаў... «Старкі» ці «Крышталю»?..

— Выпіўкі не трэба! — запратэставаў я. — Хіба што піва?

— А пасля піва не паедзем крыва? — зірнуў Рыгор на Ігнася.

— Што вы, што вы! Будзьце як дома! — яшчэ шпарчэй завіхляўся накрухмалены халат. — Шафёру не налівайце, а сабе для апетыту... Праезджым гатовы... У нас адны падзякі!

Напіцаваліся мы, як, бывала, мой дзед на калядны. За такі абед не ведалі, як і аддзячыць. Вырашылі напісаць падзяку ў кнігу скаргаў і прапаноў. Выцягнуў Рыгор самапіску, варухнуў складкамі на ілбе, і леглі на пажоўклай старонцы два радкі: «Дзякуй, мамачкі, за царскі абед, не знойдзеш такі, хоць аб'едзь белы свет!» А пад Рыгоравай творчасцю прыляпіліся нашы подпісы і тытулы: начальнік змены, токар і слесар ордэнаноснага «Строммаша».

Мы селі ўжо ў машыну, калі з ганка скацілася круглая гаспадынька. Што гэта з цёткай сталася? Пацямнела, як забытая ў духоўцы булка. Хапала ротам, як выплюснутая на бераг рыбіна. Ускінула, распасцёрла рукі, быццам збіралася нас спаймаць.

«Валідолу!» — схапіўся за дарожную аптэчку Ігнась. Але тут па шашы прашамацела «Волга», збочыла сюды ж, да сталоўкі. На траўку-мураўку ступіў мужчына — рослы, як наш Рыгор, у такім жа самым, колеру мокрага пяску, гарнітуры. З другога боку вышмыгнуў меншы — накшталт нашага Ігнася.

— Калі ласка! — адразу акрыяла цётка. — У нас для праезджых усё, што маем... Адны падзякі!..

— Што за спектакль? — кранаючы машыну, здзівіўся Ігнась. — Што за місія?

— Можа місія, а можа камісія, — азірнуўся на сталоўку Рыгор. — Гэта ж, хлопцы, мы чужую перапёлку зжэрлі!











Малюнкі Л. ВЯЗНІКАВА.




З ДАУНЕЙШЫХ БЕЛАРУСКІХ ЖАРТАУ

НЕ ПАШЧАСЦІЛА Палікару на жонку. Пра яе казалі, што яна дурная, як авечка.

Вяртаецца з поля дамоў, дык саб'ецца з дарогі і, калі не ў суседнюю вёску, дык у чужую хату ўпрэцца. Мые бялізну на рэчцы, а паласкаць нясе ў яміну, што пад хатай свінні вырылі. Збярэ Куліна смятану ў гарлачах і занясе яе парасятам. А з сыраквашы масла б'е...

Як забачыць Палікар дзівацтвы жонкі, усякі раз скажа:

— Што будзеш рабіць — няма ў бабы дванаццатай клёпкі!

Задумалася Куліна, дзе знайсці тую, дванаццатую клёпку.

Паехаў аднаго разу Палікар на млын, засталася Куліна дома адна. Рашыла, пакуль мужык вернецца з млына, дык яна ніткі напрадзе. Прывязала да прасніцы кудзелю, а нітка атрымліваецца то з вяроўку, то з конскі волас.

Вуліцай, чуе Куліна, бондар ідзе:

— Каму цэбры ладзіць, абручы набіваць!

Паклікала Куліна ў хату бондара.

— А ці можаце вы ўставіць клёпку? — пытае бондара.

— У кадушку ці цэбар?

— Мой Палікар кожны раз кажа, што ў мяне нібы дванаццатай клёпкі не хапае.

— А-а, разумею, — усміхнуўся ў рыжыя вусы бондар. — Дванаццатую можна зрабіць. Толькі яна дарагая. Тры рублі срабром каштуе.

— Няхай сабе, я заплачу, рабіце...

Вярнуўся Палікар з млына. Распрог каня, у свіран завалок мяхі з мукой. Зайшоў у хату.

— Давай, Куліна, есці, бо здорава прагаладаўся.

— Зараз, але ты раней паглядзі, што ў мяне ёсць.

Зірнуў Палікар, а ў жонкі на галаве прыладжаны шыкоўны арэхавы абручык. За правым вухам — тырчыць клёпка.

— Хто ж гэта, Куліна, цябе так упрыгожыў?

— Бондар. Цяпер ты, Палікарка, не скажаш, што ў тваёй бабы няма дванаццатай клёпкі.

Запісаў Ул. МЯЖЭВІЧ.




Рольф ВІНЭР

НЕВЯЛІКАЯ прывакзальная цырульня. Жадаючых пагаліцца ці пастрыгчыся няма, таму цырульнік сядзіць на месцы кліента і чытае газету...

— Вось і цудоўна, — радасна ўсклікнуў, увайшоўшы ў цырульню, няголены грамадзянін. — Вы не заняты і можаце мяне пагаліць.

— Вельмі шкада, — ветліва сказаў цырульнік, — але ў нас ёсць указанне галіць толькі тых асоб, якія маюць пры сабе білет.

— Але ж у вас пуста — вы б маглі зрабіць выключэнне.

— Толькі апоўначы, грамадзянін. Мы кіруемся пастановамі. Да гэтага голяцца толькі пасажыры.

— Ну што ж, нічога не зробіш, трэба ісці ў касу, — збянтэжана прамовіў непасажыр.

— Вам куды? — пытае касірка.

— Усё роўна.

— Кіньце свае жартачкі.

— Я зусім не жартую. Дайце білет хаця б да наступнай станцыі.

— Да якой наступнай станцыі?

— Мілая паненка, я ж ужо сказаў, што мне ўсё роўна куды.

— Вы павінны ведаць, куды едзеце! — нервуецца касірка.

— А я наогул нікуды не збіраюся ехаць!

— Тады навошта вам білет?!

— Я хачу пагаліцца.

Касірка з трэскам зачыняе акенца касы. Грамадзянін асцярожна стукае ў акенца і з маленнем гаворыць:

— Мілая паненка, дайце мне ўсё ж, калі ласка, білет. Цырульнік патрабуе, разумееце?

— Чаго патрабуе цырульнік?

— Ён голіць толькі пасажыраў з білетамі, — крычыць няголены.

— Вось вам білет да Рэбніц. Шэсцьдзесят пфенігаў. — Касірка з трэскам зачыніла акенца.

Няголены грамадзянін паімчаў у цырульню. Там па-ранейшаму цырульнік чытае газету.

— Вось, можаце перакanацца, — трыумфуе грамадзянін, працягваючы білет цырульніку. — Цяпер ужо я магу пагаліцца.

Цырульнік задумаўся.

— Але ж вы ўсё-такі не едзеце?

— Так, але ў мяне ёсць білет да Рэбніц. І гэтага, мне здаецца, дастаткова?

— Калі вы купілі білет толькі з той мэтай, каб пагаліцца, то гэта для мяне не мае ніякага значэння. Я галю толькі сапраўдных пасажыраў, — рашуча заявіў цырульнік.

— Але паеду я ў Рэбніцы ці не — гэта мая асабістая справа! У дадзены момант я пасажыр! — Няголены грамадзянін з цяжкасцю перавёў дыханне.

— Раз вы не збіраецеся ехаць, значыць для мяне вы не пасажыр, хоць у вас і ёсць білет. Пакіньце, калі ласка, салон.

Знясілены грамадзянін, ледзь перастаўляючы ногі, пацягнуўся да касы.

— Дарагая паненка, нічога не выйшла, білет не спатрэбіўся. Вазьміце, калі ласка, яго назад.

— На жаль, гэта немагчыма, — паціскае плячыма касірка.

— Але чаму? — у адчаі крычыць няголены.

— Калі б вы купілі білет з мэтай паехаць куды-небудзь, — зусім спакойна адказала касірка, — я б вярнула вам грошы. Але ж вы самі сказалі, што нікуды ехаць не збіраецеся. Таму вашы прэтэнзіі адпадаюць. Вам трэба пайсці да цырульніка і пагаварыць з ім. Бо вы ж купілі білет дзеля яго.

— Вы аплаціце мне кошт білета? — ужо неяк абыякава спытаў цырульніка няголены грамадзянін.

— Адзін момант, я адлучуся да тэлефона-аўтамата, — ветліва сказаў той. — Ну, вось і парадак, — радасна ўсклікнуў ён, вярнуўшыся. — Можаце галіцца.

— Нарэшце! — хлюпнуўся ў крэсла няголены.

— Але... не ў мяне, а там, у Рэбніцах, — ветліва ўсміхнуўся цырульнік.

З нямецкай пераклаў М. НАВІЦКІ.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.





Індэкс 63856

АТ 07871

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.